БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

14 красавіка 1994 г.
Чацвер
№ 40 (13757)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК




ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

## Доктар

□ Наталля КАРПЕНКА

Сяргей БРУШКО (фота)

Чалавек нарадзіўся... Здзейснілася таінства, роўнага якому не было, няма і ніколі не будзе на зямлі. Свет скаланаецца ад катаклізмаў, народ ідзе на народ, брат падымае руку на брата — але ў гэты момант на нейкае імгненне, на тысячную долю секунды нібыта прыпыняецца час, адыходзяць на задні план трагедыі і войны, а на зямлю апускаецца ціхі анёл, каб нябачнымі крыламі закрыць, абараніць кволую, дрыготкую істоту, у якой ужо б'ецца жыццё. Чалавек нарадзіўся!

Зараз ён запішчыць, заявіць пра сябе гэтаму свету — і пачнецца новы адлік часу. Ружовы, мяккі камячок... Колькі іх прыходзілася трымаць на руках Івану Уладзіміравічу Дудзе, загадчыку кафедры акушэрства і гінекалогіі, доктару медыцынскіх навук, прафесару Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў амаль за сорак гадоў сваёй працы — не падлічыць. Тым больш не падлічыць і не вымераць нічым ні пякельнага напружання, ні назапашанай разам з бяссоннымі начамі стомленасці, ні "спаленых" нервовых клетак...

(Працяг на 2-й стар).



# Цяжкі крок да аб'яднання. Але не апошні

*З гэтага часу 12 красавіка, магчыма, увойдзе ў гісторыю не толькі як свята касманаўтыкі, але і як дзень, калі зроблены вельмі важны крок ва ўмацаванні супрацоўніцтва Беларускай і Расійскай дзяржаў. У гэты дзень пастаўлена кропка ў больш чым паўгадавых намаганнях па падрыхтоўцы пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Абодва бакі падкрэсліваюць цяжкасць і складанасць гэтай работы, паколькі размова ідзе аб вырашэнні далёка не ардынарнай задачы: зліцці фінансавых сістэм дзвюх суверэнных краін. На розных этапах падрыхтоўкай праектаў дакументаў займаліся не толькі шматлікія групы экспертаў, але і міністры, кіраўнікі нацыянальных банкаў, кіраўнікі ўрадаў. З беларускага боку ўсе ніці перагаворнага працэсу сыходзіліся непасрэдна да Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча. Ён жа ўзначаліў дэлегацыю ўрада рэспублікі на фінішным адрэзку, які, відаць, быў не менш складаным, чым усе папярэднія, разам узятыя.*

У дэлегацыю ўваходзілі таксама першы намеснік кіраўніка ўрада Міхаіл Мясніковіч, намеснікі Мікалай Косцікаў і Уладзімір Заламай, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Іван Бамбіза, кіраўнік Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, міністры Сцяпан Янчук, Павел Казлоўскі, Генадзь Шкурдзь, старшыні ўсіх абласных Саветаў народных дэпутатаў.

Познім вечарам 12 красавіка ў Вялікай зале перагавораў Белага дома на Краснапрэсненскай набярэжнай, дзе цяпер размяшчаецца расійскі ўрад, адбылося падпісанне ўсяго пакета падрыхтаваных дакументаў. Галоўны з іх — "Дагавор аб аб'яднанні грашовай сістэмы Рэспублікі Беларусь з грашовай сістэмай Расійскай Федэрацыі і ўмовах функцыяніравання агульнай грашовай сістэмы". Падпісаны таксама міжурадавае пагадненне аб адзіным механізме кіравання бюджэтнымі сістэмамі Беларусі і Расіі, аб адзіным парадку рэгулявання знешнеэканамічнай дзейнасці, пратакол аб увядзенні адзінага парадку тарыфнага рэгулявання гандлю і аб'ёмах інвесціруемых і крэдытуемых тавараў, аб увядзенні рэжыму свабоднага гандлю, а таксама пратакол аб увядзенні сумеснага мытнага кантролю. І Вячаслаў Кебіч, і Віктар Чарнамырдзін пасля цырымоніі падпісання падкрэслілі ўзаемавыгаднасць дасягнутага пагаднення. Ні адзін бок не імкнуўся выйграць за кошт другога. У той жа час абодва прэм'еры адзначылі, што зроблены вельмі важны, але толькі першы крок на шляху да аб'яднання грашовых сістэм.

Асаблівасць падпісанага пагаднення і дакументаў, якія спадарожнічаюць яму, заключаецца ў тым, што не ўсе яго артыкулы пачнуць дзейнічаць адразу. З 1 мая ўступаюць у сілу артыкулы, якія датычаць у першую чаргу зняцця абмежаванняў на гандаль. У прыватнасці, адмяняюцца пошліны на прадукцыю, якую Расія экспартуе ў Беларусь. Гэта вельмі важна для беларускіх вытворцаў, паколькі названыя пошліны амаль на трэць павялічвалі кошт нашых тавараў.

Высока ацаніў адмену расійскіх экспартных пошлін і кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч. На яго думку, наступным крокам з боку Расіі павінна быць устанаўленне аднолькавых цэн на сыравіну, энергію, матэрыялы, іншую прадукцыю як для сваіх, так і беларускіх спажыўцоў.

Аднак для таго, каб уступіў у сілу ўвесь Дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм, сур'ёзныя рашэнні павінны прыняць парламенты абедзвюх дзяржаў. Каменем спатыкнення быў артыкул дагавора аб банках, з-за якога сам дагавор Станіславам Багданкевічам падпісаны з агаворкай, што ўказвае на неадпаведнасць яго пятага артыкула нядаўна прынятай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Паколькі ў выніку аб'яднання адзіным плацёжным сродкам у Беларусі, як і ў Расіі, павінен стаць расійскі рубель, бакі прыйшлі да згоды, што адзіным цэнтрам грашовай эмісіі становіцца расійскі цэнтральны банк. Ён прыме на свой баланс актывы і абавязацельствы Нацыянальнага банка Беларусі і будзе вызначаць усю крэдытна-фінансавую палітыку на адзінай расійска-беларускай фінансавай прасторы. Аднак, каб такое стала магчымым, павінны быць унесены адпаведныя папраўкі ў Канстытуцыю нашай рэспублікі.

Як падкрэслівалася на прэс-канферэнцыі пасля падпісання дагавора, ёсць два шляхі "развязвання" праблемы: папраўкі ў Канстытуцыю ўносіць Вярхоўны Савет або сваю думку ў сувязі з аб'яднаннем грашовых сістэм выкажа сам народ у ходзе ўсебеларускага рэферэндуму. Саветнік кіраўніка беларускага ўрада Мікалай Скарынін дапускае, што рэферэндум можна правесці адначасова з выбарамі першага прэзідэнта рэспублікі. Што датычыць урада, то, паводле слоў Вячаслава Кебіча, ён не сумняваецца ў правільнасці выбранага шляху.

Сур'ёзныя парламенцкія працэдуры дагавор павінен прайсці і ў Расіі. Яго трэба будзе ратыфікаваць у думе. Карацей кажучы, бакі дамовіліся прывесці заканадаўства сваіх краін у адпаведнасць з падпісаным дагаворам. Толькі пасля гэтага ён уступіць у сілу і пачне дзейнічаць закладзены ў ім механізм аб'яднання.

БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Знайсці рэальнага ўласніка

*"Мэта беларускай прыватызацыі — знайсці рэальнага ўласніка былой дзяржаўнай маёмасці", — сказаў намеснік міністра па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Васіль Давыдзенка на сустрэчы з журналістамі.*

Паводле наяўнай інфармацыі, на гэты момант для атрымання чэкаў "маёмасці" ў камісіі выканкамаў Саветаў народных дэпутатаў звярнулася больш як дзесяць працэнтаў гармадзян рэспублікі. Гэта каля 700 тысяч чалавек. Намінальны кошт сертыфікату вызначаны ўрадам у 25 тысяч рублёў. У сярэднім іх колькасць на аднаго жыхара Беларусі складзе каля двух мільёнаў рублёў. Чэкі можна атрымаць у спецыяльных камісіях пры выканкамах Саветаў народных дэпутатаў, а ў буйных гарадах — у жыллёва-эксплуатацыйных службах па месцы пражывання.

Законам аб імянных прыватызацыйных чэках прадугледжана бязвыплатна перадаць грамадзянам палову маёмасці, якая належыць дзяржаве. Цяпер прыблізна дзесяць яе працэнтаў ужо акцыяніравана.

Другі этап прыватызацыі — абмен чэкаў на акцыі — пачнецца з першага ліпеня. Парадак куплі акцый спрошчаны. Дастаткова звярнуцца ў ашчадны банк і пералічыць свае чэкі "Маёмасць" на рахунак выкупляемага прадпрыемства. Узамен выдадуць адпаведны дакумент.

БЕЛІНФАРМ.

### Кантакты пашыраюцца

*Сёння дзяржава Ізраіль адзначае сваё нацыянальнае свята — Дзень Незалежнасці. Напярэдадні Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Ізраіля ў Беларусі спадар Эліяху Валк правёў прэс-канферэнцыю.*

48-гадовы дыпламат у свой час жыў у Мінску, навучаўся ў БДУ, таму добра ведае нашу рэспубліку. На брыфінгу размова ішла не толькі аб сучасным становішчы Ізраіля, але і аб кантактах на розных узроўнях паміж дзяржавамі.

У 1947 годзе Савет Бяспекі ААН прагаласаваў за стварэнне яўрэйскай дзяржавы, была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці Ізраіля. Сёння ён адзначае нацыянальнае свята 46-ты раз.

Спадар Эліяху Валк расказаў журналістам аб развіцці эканамічных працэсаў у Ізраілі, палітычным ладзе дзяржавы. Асаблівую ўвагу ён звярнуў на ўзаемаадносіны паміж Ізраілем і Беларуссю, якія атрымалі вялікі імпульс пасля абмену пасламі. Пакуль ратыфікавана толькі адно міждзяржаўнае пагадненне ў галіне сельскай гаспадаркі, але плануецца, што будзе заключана яшчэ 7 рамачных дагавораў.

Тым не менш, дзелавыя кантакты пашыраюцца з кожным днём. Апошнім часам 4 групы беларускіх банкіраў, эканамістаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, гандлёвых работнікаў наведалі Ізраіль, завязалі партнёрскія сувязі з прадстаўнікамі мясцовага бізнесу. Адбыліся кансультацыйныя сустрэчы ізраільскага боку з работнікамі беларускага ваеннага ведамства, міністэрстваў унутраных спраў і аховы здароўя.

Якаў ЯСЭПКІН.

### Прушынскі — непажаданая персона?

*Здаецца, адным з магчымых прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду стала меней. Аляксандр Прушынскі, які выказваў намер змагацца за "крэсла № 1", выбыў з барацьбы яшчэ да яе афіцыйнага пачатку.*

У суправаджэнні прадстаўнікоў адпаведных органаў улады Аляксандр Ксаверавіч вымушаны быў пакінуць Беларусь. Апынуўшыся ў Польшчы, граф адразу ж стаў "здабычай" журналістаў. Перад высылкай А.Прушынскі некалькі дзён знаходзіўся пад арыштам "за парушэнне пашпартнага рэжыму".

(Ул.інф.).

### Як на перадавой

*Другі па ліку выбух за апошнія некалькі дзён прагучаў у раёне "Гомсельмаша". У выніку першага, як вядома, загінуў вадзіцель "Жыгулёў" і была цяжка паранена яго спадарожніца.*

На гэты раз у рэстаране "Верас", што знаходзіцца ў тым жа мікрараёне, незнаёмыя ў масках кінулі дзве гранаты, адна з якіх разарвалася. На шчасце, наведвальнікі атрымалі толькі лёгкія цялесныя пашкоджанні і вельмі перапалохаліся. Другую гранату сапёры абясшкодзілі толькі праз суткі — гэта да пытання аб нашай аператыўнасці. Злачынцы ўцяклі.

### Так жыць нельга!

*У даўжэзныя чэргі па заслужаную дапамогу па старасці выстраіліся ў гэтыя дні на поштах брэсцкія пенсіянеры. Аднак, дарэмна страціўшы час і нервы, большасць з іх вярталася дамоў без грошай.*

Як стала вядома, Брэсцкі паштамт не атрымаў з абласнога пенсіённага фонду больш за трэць неабходнай для выплат сумы. Кіраўніцтва паштамта звярнулася па дапамогу да абласных улад і атрымала абяцанне зрабіць выплаты к канцу месяца. На якія сродкі ўвесь гэты час будуць жыць пенсіянеры — ніхто адказаць не можа.

БЕЛІНФАРМ.

### Мытнікі не спраўляюцца

*Да такога вываду прыйшлі на апошняй нарадзе ў выканкаме Крычаўскага гарсавета, удзельнікамі якой былі кіраўнікі гарадскога аптова-рознічнага прадпрыемства, аддзела рабочага забеспячэння, масларобнага завода, мясакамбіната, хлебазавода, ГРАУС, мытні і лінейнага аддзела міліцыі.*

Адзначана, што вываз прадуктаў харчавання за межы рэспублікі набыў пагражальны характар. У Расію вывозіцца хлеб, мясныя і малочныя вырабы, у той час, як іх не хапае для саміх жыхароў Крычава. Каб спыніць гэты працэс, гандлюючыя арганізацыі абавязалі строга захоўваць нормы водпуску тавараў пакупнікам.

Аляксандр БАЛДОЎСКІ.

### У Маладзечна будзе сваё тэлебачанне

*Маладзечанскім гарвыканкамам і тэлекампаніяй "Піянер ТК" падпісаны пратакол аб стварэнні ў горадзе тэлевізійнага канала.*

Мяркуецца, што асноўнае месца ў тэлепраграмах мясцовага тэлебачання зоймуць перадачы аб гарадскім жыцці, будзе ўдзяляцца шмат увагі рэкламе, інфармацыі і парадам спецыялістаў.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Новае пакаленне выбірае піва?

*Хто будзе прадстаўляць інтарэсы моладзі на маючых адбыцца выбарах прэзідэнта Беларусі? Своеасаблівы адказ на гэтае пытанне прагучаў учора на прэзентацыі Беларускай партыі аматараў піва, што адбылася ў канферэнц-зале Мінскага дома літаратара.*

Сапраўды, Беларуская партыя аматараў піва аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах пераважна маладых людзей. Праўда, вылучаючы свайго кандыдата ў прэзідэнты, партыя мусіла ўлічыць прадугледжаны законам мінімальны ўзроставы цэнз — 35 гадоў. Натуральна, знайшоўся і такі прэтэндэнт — Аляксандр Мікалаевіч Кальцоў, з якім і знаёміліся прысутныя.

Трэба сказаць, што на гэтым мерапрыемстве панавала не толькі дзелавая атмасфера, але і піва, багаццем якога былі ўсцешаны і сябры партыі, і запрошаныя госці ды журналісты.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### Фота на памяць... пад вадой

*У кастрычніку 1994 года ў Францыі адбудзецца XXI Сусветны фестываль малюнкаў падводнага свету. Да фестывалю прымеркавана выстава падводных фотаздымкаў.*

У ёй прыме ўдзел група "АФО" з Мінска, у якую ўваходзяць пяць вядомых майстроў падводнай фотаздымкі.

Жанна МАЁРАВА.

**Курсы валют на 13 красавіка:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 11650 | 12120 | 6800 | 7085 |
| "Прыор" | 11800 | 12200 | 6900 | 7100 |
| "Пошук" | 11600 | 12200 | 6900 | 7500 |

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар Я.ЯСЭПКІН.*

## "Еўраньюс"

### Лекі-забойцы

*Міністр аховы здароўя Японіі заявіў, што альфа-інтэрферон, нядаўна вынайдзенае лякарства для лячэння гепатыту і рака, можа служыць прычынай дэпрэсій і нават спробай самагубства (як пабочная з'ява).*

Паводле яго слоў, 32 чалавекі, якія ўжывалі гэты прэпарат з 1987 па 1993 год, спрабавалі скончыць самагубствам, 12 з іх выратаваць не ўдалося. Гэта заява з'яўляецца мацнейшым ударам па японскай фармацэўтычнай прамысловасці. У мінулым годзе вытворчасць прэпарата прынесла самыя высокія даходы. Навіна моцна ўдарыць і па сусветнай вытворчасці лекаў, якія ацэньваюцца ў 1,6 млрд.даляраў за мінулы год.

## "Суперчэннэл"

### Злачынствы "ў мэтах дабрачыннасці"

*Мужчына, хворы на СНІД, быў прыгавораны Лонданскім судом да двух з паловай гадоў пазбаўлення свабоды па абвінавачванню ў грабяжы і вымаганні. Ён пагражаў сваім ахвярам... шпрыцам, у якім, паводле яго сцвярджэнняў, знаходзілася інфіцыраваная вірусам кроў.*

Злачынца краў такім чынам грошы і асабістыя рэчы. У рэшце рэшт яго затрымалі тры гасцінічныя служачыя пад час адной чарговай спробы грабяжу. Адвакаты злачынцы апелявалі да суда, заявіўшы, што той рабаваў для таго, каб дастаць грошы для арганізацыі, якая займаецца дабрачыннай дапамогай ВІЧ-інфіцыраваным.

### Фанаты не выратавалі

*Прыхільнікі чылійскага чэмпіёна па футболу каманды "Кока-Кола" пачалі весці сябе агрэсіўна на стадыёне пасля таго, як ужо да 35-й хвіліны сустрэчы іх любімы клуб прайграваў сваім даўнім сапернікам — футбалістам "Універсідад Каталіка" з лікам 0:2.*

У выніку ўзнікшай бойкі сямёра паліцэйскіх атрымалі раненні, сотні футбольных фанатаў былі затрыманы. Матч усё ж адбыўся. "Універсідад Каталіка" перамог з лікам — 4:1.

## "Уорлднэт"

### Лістападаўскі рэферэндум у Нарвегіі

*Хутчэй за ўсё 28 лістапада ў Нарвегіі адбудзецца рэферэндум па пытанню ўступлення краіны ў Еўрапейскае супольніцтва.*

Пра гэта паведаміў прэм'ер-міністр Нарвегіі. Рэферэндум будзе праведзены толькі пасля таго, як падобныя плебісцыты пройдуць у Швецыі і Фінляндыі. Аналітыкі лічаць, што рэферэндумы ў Швецыі і Фінляндыі зробяць уплыў на выніку апытання насельніцтва ў Нарвегіі.

### 40 заложнікаў

*Баснійскія сербы трымаюць у заложніках па ўсёй Босніі-Герцагавіне каля 40 назіральнікаў ААН.*

Усе яны знаходзяцца пад хатнім арыштам, заявіў прадстаўнік ААН у Сараева.

### Хочам на заходні рынак

*У Варшаве ў пачатку мая адбудзецца сумесная канферэнцыя міністраў эканомікі і гандлю краін Захаду і Усходу.*

У цэнтры ўвагі дэлегатаў будзе пытанне аб доступе на заходні рынак тавараў з СНД і Усходняй Еўропы.

## "TV-5"

### Пачаўся судовы працэс

*У Мюнхене пачаўся судовы працэс супраць курдаў. Ён адкрыўся ў аўторак.*

Абвінавачваюцца 12 курдаў і 1 ліванец без грамадзянства. Усе асобы, якія ўдзельнічаюць у працэсе, праходзяць уважлівы агляд з боку органаў бяспекі. Курды і ліванец абвінавачваюцца ў тым, што ў чэрвені мінулага года яны "штурмавалі" турэцкае генеральнае консульства ў Мюнхене.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### Японцы ў крызісе?

*За мінулы месяц выпуск аўтамабіляў у Японіі ўпаў на 14 працэнтаў у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года.*

Выпуск грузавых і легкавых аўтамабіляў, а таксама аўтобусаў упаў да рэкордна нізкай лічбы ў пасляваеннай гісторыі Японіі — 896 тысяч адзінак.

### "Вышынная" трагедыя

*Пяцігадовы хлопчык памёр у бальніцы сталіцы Вялікабрытаніі пасля падзення з вышыннага дома.*

Хлопчык гуляў са сваімі равеснікамі на адным з балконаў на 11-м паверсе вышыннага дома ў раёне Льюісхэм (паўднёва-ўсходні Лондан). Агульная вышыня падзення склала каля 130 футаў (40 метраў). Паліцыя звярнулася ў мясцовыя органы ўлады з патрабаваннем звярнуць увагу на ўстаноўку засцерагальных бар'ераў на балконах вышынных дамоў.

### "Яечная" рэклама

*З мінулага панядзелка аматары яек на снеданне змогуць чытаць на іх рэкламныя аб'явы брытанскай кампаніі "Брыціш Тэлеком" аб новых ільготных тарыфах на тэлефонныя размовы.*

Кампанія заклікае на вараных яйках: "Прачніцеся з новым коштам на паслугі "БТ". Усяго кампанія "выпусціла ў зварот" каля 13,5 млн. яек з такім надпісам з дапамогай напылення харчовай фарбы.

### Сабор з працягнутай рукой

*Сабор Святога Паўла ў Лондане можа апынуцца перад вялікай праблемай — дзе знайсці 8 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў на рэканструкцыю 300-гадовых пабудоў.*

Да гэтага прывялі гады забруджвання, абыякавых адносін тысяч наведвальнікаў штодзённа. Эксперты канцэнтруюць увагу на тым, што некаторыя часткі сабора настолькі патрабуюць рэстаўрацыі, што сталі небяспечнымі для наведвальнікаў. Знакамітае збудаванне не рамантавалася з 1930 года.

### Непаладкі ў космасе

*Спецыялісты НАСА паведамілі на прэс-канферэнцыі ў Нью-Йорку пра тое, што ўдалося ліквідаваць непаладкі радыёлакацыйнай станцыі, якая знаходзіцца на борце амерыканскага касмічнага карабля "Індэвор".*

Першыя здымкі, зробленыя з дапамогай станцыі, ужо перададзены на Зямлю.

### Хворым дапаможа экспрэс-спосаб

*Ізраільскімі вучонымі распрацаваны спосаб хуткага тэсціравання, які дапамагае пранікнуць у працэс гібелі клетак галаўнога мозга.*

Новы спрошчаны спосаб замяняе складаныя формулы, якія раней выкарыстоўваліся, і дае магчымасць атрымаць вынікі ўсяго праз дзве гадзіны. Паводле сцвярджэння ўрачоў, гэты спосаб можа быць выкарыстаны для апрабіравання эксперыментальных прэпаратаў, якія прадухіляюць гібель мазгавых клетак ці карэкціруюць парушэнне функцый галаўнога мозга.

### Падаюць не толькі лайнеры

*Адзін чалавек загінуў, другі атрымаў сур'ёзныя траўмы ў выніку падзення лёгкага аднаматорнага самалёта на поле ў раёне горада Стрэдфард-на-Эйване.*

Паліцыя паведамляе, што пры падзенні самалёт распаўся і яго абломкі знаходзяць на вялікай тэрыторыі. Мясцовыя ўрачы прыбылі на месца здарэння ў лічаныя хвіліны і аказалі першую дапамогу авіятару, які застаўся жыць, пакуль падаспела рэанімацыя.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

### З гісторыі беларускай паліванай керамікі

Добры падарунак для тых, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі, зрабіла выдавецтва "Навука і тэхніка". У свет выдадзена кніга "Беларуская паліваная кераміка XI-XVIII стст."Яе аўтар" — Ніна Здановіч і Алег Трусаў.

У навуковым выданні даследуюцца вытворчасць і распаўсюджанне на тэрыторыі Беларусі паліванага посуду, кафлі, будаўнічых матэрыялаў, іншых прадметаў з керамікі, іх гістарычнае развіццё, асартымент, спосаб фармоўкі, тыпалогія, прылады працы.

У мінулым познесярэднявечная, у тым ліку і паліваная кераміка, не прыцягвала асаблівай увагі археолагаў, хоць яшчэ ў пачатку XX стагоддзя пра неабходнасць яе вывучэння гаварылі асобныя даследчыкі. Паступленні посуду XIV-XVIII стст., а таксама кафлі ў музейныя фонды былі рэдкай з'явай. Аднак з цягам часу яны пачалі папаўняцца рэдкімі экспанатамі. Аўтарамі манаграфіі робіцца спроба прасачыць працэс зараджэння, росквіту і развіцця вытворчасці ўсіх груп паліванай керамікі на Беларусі ў іх узаемасувязі і ўзаемаўплывах. Развіццё паліванай справы разглядаецца ў кантэксце агульнаеўрапейскага працэсу зараджэння і станаўлення вытворчасці паліванай керамікі, маёлікі і фаянсу.

Увагу чытачоў, безумоўна, прыцягнуць раздзелы "Вытокі вытворчасці паліванай керамікі на Беларусі", "Пашырэнне паліванай вытворчасці ў канцы XV першай палове XVI ст.", "Прывазны паліваны посуд XVI-XVIII стст.", "Рэгіянальныя асаблівасці паліванай вытворчасці на Беларусі ў XVI-XVIII стст." і іншыя.

Значэнне вывучэння паліваных керамічных вырабаў пры даследаванні матэрыяльнай культуры народа цяжка пераацаніць. Яно дапамагае не толькі высветліць пытанні самой керамічнай вытворчасці, але і дае магчымасць атрымаць уяўленне пра гістарычную тапаграфію гарадоў і мястэчак, інтэнсіўнасць жыцця на асобных участках, маёмасную дыферэнцыяцыю жыхароў.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

АДАМ І ЕВА

# Выбіраю норкавае футра

□ **Наталля СТРАЛКОВА, "ЧЗ"**

*У большасці маіх аднакласнікаў любімымі тэмамі сачыненняў пад час навучання ў школе былі тыя, якія заклікалі даваць рашучы "адлуп" рэчавізму. Як з'яве ўвогуле і як адмоўнай рысе некаторых членаў грамадства ў прыватнасці. Памятаеце? "Лепшы падарунак — зроблены сваімі рукамі", "Сціпласць упрыгожвае чалавека", "Не ўсё тое золата, што блішчыць", — ну і гэтак далей. Хлусілі мы ў іх, трэба сказаць, парадкам, выстаўляючы сябе гэткімі правільнымі дзеткамі: руплівымі, сарамлівымі, сціплымі. Вельмі ж хацелася добрую адзнаку атрымаць. Выходзіла, скажам, што кветкі, выразаныя з каляровай паперы і наклееныя на вырваны са сшытка аркуш, маюць куды большую каштоўнасць, чым жывыя, але купленыя за маміны грошы.*

*І ўсё ж... Падманвалі мы настаўнікаў толькі напалову. Другая частка душы заставалася цнатліва-чыстай дзякуючы чаму мы шчыра абураліся паводзінамі сваіх аднагодкаў, якія ў час наведвання школы замежнымі турыстамі ледзь ці не біліся з-за кінутай у дзіцячы натоўп жмені гумак і карамелек. Пратэст быў натуральным, хоць і тады вельмі модна было захапляцца ўсім замежным. Але існавала мяжа, унутраны бар'ер, за якім ішла ўжо іншая градацыя, дакладней, дэградацыя асобы. (Устойлівае спалучэнне, якое сёння так нагнала аскому, што неназойліва ператварылася ў норму). Дэградзіраваць ужо няма куды...*

Вы былі хоць раз на памінках? Самых звычайных, калі, аддаўшы прах нябожчыка зямлі, родныя і блізкія збіраюцца за адным сталом, каб добрым словам успомніць таго, каго ўжо няма побач. Сумнае мерапрыемства, скажу я вам, асабліва калі нябожчыку няма і сарака і аплакваюць яго маці з бацькам, дзядуля з бабуляй і маладая прыгожая жонка. Ці існуюць нейкія пісаныя правілы падобных "застолляў" — не ведаю, а па няпісаных і некалі ўсталяваных традыцыях чалавека памінаюць дабром. Але дабро дабру — розніца. Уявіце сабе высокую даўганогую бландзінку гадоў 25-ці ў празмерна эфектнай для падобнага выпадку чорнай сукенцы, якая пачынае прылюдна шкадаваць аб тым, што "муж ужо больш ніколі не купіць ёй халацік за сто даляраў", і бедаваць з нагоды таго, што "цяжка будзе цяпер знайсці другога, які б столькі зарабляў". Потым ідзе абмеркаванне гардэроба, які ўдалося набыць за час не вельмі працяглага замужжа. Сяброўкі сядзяць з адкрытымі роцікамі і выказваюць свае ўражанні толькі выклічнікамі. Рэзюме ж маналога зводзіцца да наступнага: як жа я цяпер толькі на зарплату?

Можна было б даць усяму гэтаму нейкае ўнутранае тлумачэнне — гора муціць нават самыя ясныя розумы. Чаго ж патрабаваць ад жанчыны, якая толькі пахавала мужа? Але калі "памутненне" і мела месца, дык несла на сабе адбітак заканамернасці. Нават фотаздымкі, якія сведчылі пра далёка не "сярэдні ўзровень" жыцця нябожчыка, лішні раз пацвярджалі, што і смуткаваць можна на свой лад. Напрыклад, успамінаючы (не без гонару) аб тым, як тыдзень не хацелася размаўляць з мужам з-за някупленай па першаму патрабаванню сукенкі. Больш буйныя рэчы "цягнулі" на два тыдні, а то і на месяц...

Усё часцей лаўлю сябе на тым, што перастаю здзіўляцца хамству, брыдкаслоўю, тупасці, адсутнасці сумлення, гонару і годнасці. Меў рацыю сучасны класік, калі пісаў, што мы жывём у тым месцы, дзе каштоўнасць чалавека вызначаецца менавіта адсутнасцю ў яго ўласнай годнасці. А ўвогуле ці сумяшчальныя гэта рэчы — рынак і чалавечая годнасць? Бізнес, вялікія грошы — і сумленне? А калі — не, і трэба будзе выбіраць?

Увогуле я — не пра гэта. А... пра каханне. Гісторыя няхітрая, такіх у жыцці здараецца на дзень па дзесятку, а можа і болей. Дзяўчынка Аня выйшла замуж за свайго аднакурсніка Валодзю не па разліку, а таму, што адчувала: не можа без яго жыць. Муж адказваў ёй аналагічнымі пачуццямі, і таму маладыя былі на сёмым небе ад шчасця. Пакуль Аня, нагледзеўшыся па "відзіку" фільмаў пра амерыканскіх Папялушак, якія на працягу дзвюх гадзін ператвараліся ў прынцэс, не пачала патрабаваць у мужа кінуць работу па спецыяльнасці і пашукаць што-небудзь у "камерцыйных структурах". Валодзя — чалавек на пад'ём даволі цяжкі — не надта спяшаўся развітвацца з дыпломам і "наседжаным" месцам. Тады маладая жонка пайшла "на штурм", пачаўшы пераконваць мужа самым, на яе думку, дзейсным метадам — "адлучэннем" ад сямейнага ложка. "Хачу скураное паліто! — тупала ножкай Аня і надзімала прыгожыя губкі. — Ва ўсіх сябровак ужо ёсць, а ў мяне — няма!". "А можа, лепш дзіця родзіш?" — задаваў рытарычнае пытанне муж. "Гэта з тваёй зарплатай? Не смяшы!". Апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу і крута змяніла іх жыццё, стала норкавае футра. Яго вывесілі ў валютным аддзеле магазіна, што знаходзіўся на першым паверсе іх дома. Аня страціла спакой і сон і нават (як прызнавалася сама) пачала худзець. З упартасцю Элачкі-людаедкі, якая ў свой час пераплюнула "Вандэрбільдзіху", перафарбаваўшы футра з зайца ў блакітны колер, Аня пачала дабівацца запаветнай рэчы. Яна не гатавала мужу абеды, не мыла бялізну, не прасавала яго кашулі. І ўвесь час празрыста намякала на нейкага "спонсара", які працуе ў сумесным прадпрыемстве, і калі што — зможа суцешыць бедную дзяўчыну царскім падарункам. Карацей кажучы, Валодзя "здаўся" і пайшоў у камерцыю. Тонкасцей я, безумоўна, не ведаю — Аніны бацькі ўладкавалі яго намеснікам дырэктара ў нейкую фірму, якіх безліч, так што адрозніць адну ад адной не ўяўляецца магчымым. Фірма "крутанулася" і сарвала куш, з якім магла пускацца ў вялікае плаванне. Валодзя "ўсплыў" праз год, разам з цёмна-сіняй "Вольва", шыкоўным касцюмам, стыльнай стрыжкай і скураным кейсам. Праўда, прыкладна ў гэты ж час у Партызанскі народны суд трапіла заява на скасаванне шлюбу. Здагадваецеся, ад каго? Правільна, ад Ані. Ну, футра яна, безумоўна, купіла. І да футра. І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ... А калі ахвоту трохі збіла, захацелася чагосьці для душы. Цеплыні і хатняй утульнасці. Каб боцікі-батфорцікі з прыгожай ножкі любімы мужчына здымаў. Каб па галоўцы — толькі што ад прыватнага цырульніка — пяшчотна гладзіў... А дзе ён, мужчына-муж? Бізнесам займаецца. Якім-такім бізнесам? І чаму пасля гэтага чортавага бізнесу на кашулі сляды ад губной памады застаюцца, а касцюм пахне жаночай парфумай?

Аня стала нервовай, раздражняльнай, падазронай... Не тое, дык гэта выводзіць яе з цярпення. А больш за ўсё не дае спакою думка, што сама ва ўсім вінаватая. Аня думку гоніць, а тая вяртаецца: "Лепш бы мы сапраўды нарадзілі дзіця". Ва ўласным доме яна адчувае сябе адзінокай і чужой. Асабліва па вечарах, калі цішыня ў пакоях не парушаецца ні адзіным жывым гукам. Раней яна любіла рэстараны, зараз ненавідзіць за мітусню, ілжывасць, бруд і адсутнасць культуры...

Прадбачу з'едлівае пытанне: няўжо рай можа быць толькі ў шалашы, хіба ў раскошы — адны заганы? Не хацелася б, каб нехта зразумеў мяне так прамалінейна. І ў беднасці хапае сваіх "мінусаў", і часам такіх, з якімі не тое што каханне, а і звычайная цярплівасць не ўжылася б... З другога боку, не такія ўжо і рэдкія выпадкі, калі ёсць у наяўнасці і цудоўна суіснуюць вялікія грошы і сапраўдныя пачуцці. Справа не ў тым, што без чаго немагчыма. А ў тым, каб выбраць для сябе галоўнае і потым не пакутаваць і не зайздросціць суседцы па лесвічнай пляцоўцы, за дзвярыма якой па вечарах гучыць музыка і смяюцца дзеці.

Дарэчы, не так даўно камерцыйны канал Беларускага тэлебачання парадаваў прыхільнікаў здаровай эротыкі класічным амерыканскім фільмам пра каханне прынца і Папялушкі (маю на ўвазе "Дзевяць з паловай тыдняў"). Як бы ні адносіліся мы да карціны, ужо адно тое, што традыцыйнага "хэпі-энда" ў ёй не атрымалася, заслугоўвае ўвагі. А ўспомнілася пра фільм таму, што днямі, едучы ў аўтобусе, краем вуха пачула размову дзвюх дзяўчынак гадоў 16-ці, якія горача спрачаліся наконт таго, чаму гераіня Кім Бэсінджэр не засталася з героем Мікі Рурка. "Таму што дурніца, — лаканічна рэзюмавала адна з дзяўчынак. — Такі мужчына! Ён ёй і падарункі, і брыльянты, і апельсінавы сок у ложак...".

"І адчужанасць, і эгаізм, і нежаданне зразумець", — хацелася дадаць, але ж няёмка было ўлазіць у чужую размову. А праз некалькі прыпынкаў яны выйшлі, так і не знайшоўшы адказу на сваё "чаму".

♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥

# Сучасныя каралі ... па каханню?

□ **Ірына ТРЫПУЗАВА**

Некалі Ала Пугачова спявала: "Усё могуць каралі..." і тут жа дадавала, што жаніцьба па каханню ім не падуладная. З гэтымі словамі могуць пагадзіцца і сучасныя манархі: нягледзячы на тое, што царуючыя дынастыі страчваюць уладу, пратакол для іх усё ж суровы.

Англійскаму каралю Эдуарду VIII ў свой час давялося адмовіцца ад трона, каб ажаніцца з разведзенай амерыканкай Уэліс Сімпсан. Гэтак жа зрабіў і грэчаскі наследны прынц Міхаіл, які выбраў у жонкі нязнатную дзяўчыну. А нарвежскі кароль Улаф V пасля смерці ў 1954 годзе каралевы Марты больш як трыццаць гадоў жыў удаўцом, таму што жанчыны, якіх ён кахаў (Астрыд Белствік — уладальніца магазіна, Ліз Інге Хаўг — дыктар тэлебачання), былі простага паходжання і ён не мог з імі ажаніцца, каб не страціць прэстыж манархіі ў краіне.

Цяперашні манарх Японіі Акіхіта — першы ў гісторыі Японскай імперыі — адмовіўся ажаніцца з нявестай, знаёмячыся з ёю на вяселлі. У 1959 годзе ён звязаў свой лёс з Мітыка Шода, дачкой фабрыканта. Выбранніца Акіхіта прыйшлася не па густу імператарскай фаміліі, якая доўгі час публічна выказвала негатыўныя адносіны да яе, ігнаруючы і не заўважаючы Мітыка. Падтрымкай імператрыцы заўсёды былі яе муж і сыны, і, нягледзячы ні на што, яна лічыць сваё замужжа шчаслівым. Яе сыны таксама ўзялі ў жонкі не арыстакратак.

Грэчаскую прынцэсу Сафію рыхтавалі ў нявесты наследніку нарвежскага прастола Харальду, у якога яна была моцна закахана. Але прынц ажаніўся з прыгажуняй Соні Харальдсен, якая была дачкой багатага аптовага гандляра тканінай. Сафія ж пазней стала жонкай іспанскага караля Хуана Карласа. І калі яе ўласны сын Філіп вырашыў узяць у жонкі не прынцэсу, а "толькі" дачку маркіза, яна горача супраціўлялася гэтаму, відавочна, успамінаючы сваю першую няўдалую закаханасць і саперніцу простага паходжання.

Ёсць прыклады і шчаслівых шлюбаў паміж прынцамі і "папялушкамі". У 1956 годзе манакскі прынц Рэнье III зрабіў фурор у вышэйшым свеце, ажаніўшыся з галівудскай кіназоркай Грэйс Келі, якая падарыла яму траіх дзяцей. У Манака да самай яе смерці існаваў літаральна культ прынцэсы Грэйс. Цікава, што сын Рэнье Альберт быў у захапленні ад знакамітай манекеншчыцы Клаўдзіі Шыфер, якая знешне нагадвае Грэйс Келі.

Кароль Іарданіі Хусейн пасля гібелі каралевы Аліі ў авіякатастрофе ўзяў у жонкі маладую прыгажуню-амерыканку Лайзу Халебі, якая, выйшаўшы замуж, змяніла гэта імя на Нураль-Хусейн ("Свет Хусейна"). Яны таксама вельмі шчаслівыя ў шлюбе.

У апошнія гады ў англійскай каралеўскай сям'і прайшла серыя разводаў: прынц Эндру і Сара Фергюсон, прынцэса Анна і Марк Філіпс, амаль разведзены Дзіяна і Чарльз... Прадстаўнікі царуючай дынастыі выбралі сабе ў спадарожнікі жыцця арыстакратаў, як і завяшчала каралева Вікторыя, але ці сталі яны ад гэтага больш шчаслівымі?..

АТЫ-БАТЫ

# "Мы як вайсковыя пасынкі"

□ **Юрый ПОЛЬСКІ**

*Добрымі намерамі, як вядома, выкладзена дарога ў пекла. Амаль два гады таму кожнаму чалавеку стала ясна, што эйфарыя ад набытага суверэнітэту хутка пройдзе і незалежнай Рэспубліцы Беларусь давядзецца самой вырашаць свае праблемы: фінансавыя, эканамічныя, ваенныя, кадравыя. Праўда, мала хто думаў, што яны акажуцца такімі грувасткімі і непад'ёмнымі.*

Вось тады і было вырашана, што калі Беларусі ў спадчыну дасталася магутная паветрана-дэсантная групоўка, і дэсантнікаў у нас у пераліку на душу насельніцтва, бадай, больш, чым у астатніх краінах СНД, то і кадры для "крылатай" пяхоты трэба рыхтаваць самім, а не спадзявацца на ўсходняга суседа, які запатрабаваў да таго ж за абучэнне курсантаў у Разанскім вышэйшым паветрана-камандным вучылішчы вялікія грошы.

1 верасня 1992 года ў вучэбных аўдыторыях Мінскага вышэйшага ваеннага каманднага вучылішча з'явіліся два дзесяткі першакурснікаў з дэсантнымі эмблемамі на чырвоных пятліцах. Адлік часу пайшоў. Часу станаўлення, рамантыкі, надзей, абяцанняў і ў рэшце рэшт... некаторага расчаравання. Сёння курсанты другога курса паветрана-дэсантнага ўзвода ўсё часцей задаюць сабе пытанне: камандзірамі якіх узводаў мы будзем выпускацца? А ў афіцэраў, якія непасрэдна працуюць з імі, часам міжволі апускаюцца рукі, калі прыходзіцца сутыкацца з мноствам нявырашаных праблем.

Сумненні, трывогі і тых і другіх зусім не марныя. За паўтара года, якія мінулі з пачатку навучання мінскіх дэсантнікаў, іх даволі многа кармілі абяцаннямі, але зроблена было практычна вельмі мала. Складваецца ўражанне, што, дэклараваўшы стварэнне на беларускай зямлі кузні кадраў для сваіх паветрана-дэсантных войск, у "вярхах" потым проста забылі пра сам факт іх існавання, а калі і ўспамінаюць, то хіба што толькі таму, каб са здзіўленнем спытаць: "Як, яны яшчэ жывыя?" У гэтай няпростай сітуацыі трэба аддаць належнае камандаванню вучылішча, гатоваму ісці насустрач дэсантнікам. Але ж ад яго, на жаль, залежыць далёка не ўсё.

Каб не быць галаслоўным, прывяду некалькі прыкладаў з жыцця. Крыху менш чым паўгода таму ваеннай падрыхтоўкай будучых афіцэраў займаліся два чалавекі — камандзір узвода старшы лейтэнант Уладзімір Барысюк і выкладчык паветрана-дэсантнай падрыхтоўкі падпалкоўнік Міхаіл Лаас. Сёння сітуацыя змянілася: прыйшоў яшчэ адзін выкладчык паветрана-дэсантнай падрыхтоўкі, два — тактыкі ПДВ, з'явіўся яшчэ адзін камандзір узвода (кіруе першакурснікамі). Гэта значыць, склаўся калектыў аднадумцаў. І вось тут пачынаецца ўжо "цікавае": ці хто па няўважлівасці, ці па злой задуме паспрабаваў разлучыць іх... не, не з небам, а з тым, што з ім звязана. Згодна з існуючым загадам яшчэ саюзнага міністра абароны, ваеннаслужачаму ПДВ (афіцэру, прапаршчыку), які выконвае праграму скачкоў, год службы залічваецца за паўтара, выплачваецца дваццаціпрацэнтная надбаўка да жалавання. Дэсантнікі, якія працуюць у вучылішчы, гэтых ільгот пазбаўлены, хоць праграму выконваюць добрасумленна.

— Мы як пасынкі пры родных войсках, — гаворыць падпалкоўнік М.Лаас, — У арганізацыйна-метадычных указаннях міністра абароны Рэспублікі Беларусь на новы навучальны год агаворана, што мы павінны праводзіць скачкі, але няма ніякага сэнсу, таму што ў беларускім загадзе, аналагічным саюзнаму, пра нас не сказана ні слова.

І не думайце, што падпалкоўнік, які мае за плячыма не адзін дзесятак скачкоў з парашутам, скардзіцца на жыццё, патрабуючы чагосьці звышнатуральнага. Не. Проста ва ўсім свеце работа, звязаная з рызыкай для жыцця аплачваецца адпаведна. Ды і курсантам вочы не завяжаш, на іх такія адносіны яшчэ як дзейнічаюць.

А адсюль вынікае яшчэ адна праблема, непасрэдна звязаная з першай. Вельмі складана знайсці выкладчыка той жа тактыкі ПДВ. І гэта зусім аб'ектыўна. Хто з ваенных, маючы за спіной акадэмію, нядрэнную пасаду і месца службы ў войсках, карыстаецца дэсантнымі льготамі, згадзіўся б усё страціць дзеля абучэння курсантаў? Такіх энтузіястаў у наш неспакойны час — адзінкі.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Па-ранейшаму вельмі дрэнныя справы з матэрыяльнай базай. Для таго, каб у гэтым годзе не адбылося зрыву заняткаў, неабходна атрымаць парашутную грузавую тару, літаратуру. А дапамогі ад Міністэрства абароны практычна няма. Ды і пра што тут можна гаварыць, калі з усяго вялікага пераліку неабходнай літаратуры ў падпалкоўніка М.Лааса ёсць толькі інструкцыя па людскіх парашутах, методыка па ўкладцы, напісаная ім, ды кіраўніцтва па паветрана-дэсантнай падрыхтоўцы (КПДП) таго ж аўтара. "Смешна" да слёз, але ўсе вучэбныя дапаможнікі сціпла змяшчаюцца на адной паліцы невялікай кніжнай шафы. Кажуць, што ў Міністэрстве абароны цяпер распрацоўваецца новае КПДП, але, мяркуючы па ўсім, да вучылішча яно дабярэцца яшчэ не хутка. Калі, вядома, пра яго зноў не забудуць.

Зусім нядаўна мне паведамілі, што пытанні, звязаныя з матэрыяльнай базай, пачалі вырашацца. Але чыясьці забыўчывасць, як хранічная хвароба, працягвае існаваць. Чаму? А як інакш растлумачыць тое, што афіцэра паветрана-дэсантнай службы, які абучае будучыню арміі, забыліся ўключыць у спіс тых, хто павінен праходзіць зборы афіцэраў ПДС? Але ж курсанты павінны ведаць, што адбываецца ў войсках. Ім жа служыць ды служыць.

Чым, як ні чыёйсьці забыўчывасцю (а можа элементарнай абыякавасцю) можна трактаваць той факт, што курсантам вось ужо паўтара года абяцаюць дазволіць насіць блакітныя пагоны, пятліцы, берэты? Магчыма, хтосьці тлумачыць гэта тым, што няма грошай на такую вопратку. Але ўпэўнены: варта толькі сказаць, што дазволілі, як праз гадзіну ва ўсіх будуць належныя атрыбуты войск. Ва ўсякім разе, курсанты прызнаюцца, што блакітныя пагоны ёсць у кожнага і толькі чакаюць свайго часу. І сродкаў дадатковых нікому плаціць не прыйдзецца.

Можа каму здаецца, што форма адзення не галоўнае. Хто ведае. Калі на кожным кроку жартуюць наконт парашутаў на чырвоным фоне, калі ў звальненні насміхаюцца з "чырвоных дэсантнікаў", якая там павага да такіх войск, да службы наогул.

Аповед пра праблемы курсантаў атрымаўся б няпоўным без размовы з самімі курсантамі. І такая сустрэча адбылася. Скажу шчыра: адказаць на іх пытанні, вырашыць што-небудзь па іх прапановах было няпроста. Ды і не ў маёй гэта кампетэнцыі — адказваць, прымаць рашэнні. Мая справа праз газету перадаць гэтыя праблемы. Можа мяне пачуюць і зрушыць справа з мёртвага пункту.

Вось толькі частка з таго, што выказалі і прапанавалі курсанты:

"Чаму ў нас няма спецыяльнага курса па фізічнай падрыхтоўцы? Нас прымушаюць займацца па нарматывах астатніх родаў войск, хоць мы здольныя на большае. На той жа зарадцы наш узвод заўсёды наперадзе, і нярэдка прыходзіцца чакаць астатніх" (па выніках здачы заліку па фізпадрыхтоўцы за семестр дэсантнікі атрымалі ўсяго тры "чацвёркі", астатнія "выдатна" — Аўт.).

"Праграму скачкоў выконваем, а кормяць у сталовай па сухапутнаму пайку".

"Чаму не звесці ўсе паветрана-дэсантныя ўзводы, якіх у перспектыве будзе чатыры, у адно падраздзяленне? Былі б адны патрабаванні, адзін спосаб жыцця і службы. А сёння адзін афіцэр патрабуе адно, другі — другое і г.д. А ў выніку — нічога добрага..."

Каб пералічыць усе пажаданні курсантаў, спатрэбілася б нямала паперы і яшчэ больш часу. Скажу толькі, што ўся работа па падрыхтоўцы афіцэраў для ПДВ страціць сэнс, калі не будуць вырашаны іх праблемы. Ужо сёння энтузіязм і курсантаў, і афіцэраў зніжаецца. І яшчэ пытанне, ці змогуць яны пры такіх адносінах мець такую ж падрыхтоўку, як выпускнікі з Разані? Па ўсім відаць, што не. Але гэта тэма для іншай размовы.

А пакуль хацелася б унесці адну прапанову: афіцэрам-дэсантнікам з упраўлення баявой падрыхтоўкі сустрэцца з курсантамі і выслухаць іх. Згодна з маімі данымі, такой сустрэчы за ўсю гісторыю гэтага факультэта не было.

*Я цябе адразу пазнаў: ты дэсантнік з Беларусі!*

### Калі і адважны сапёр не ўзброены

Група размініравання пад камандаваннем лейтэнанта Сяргея Чацверыкова прыбыла ў вёску Почанцы Светлагорскага раёна пасля трывожнага выкліку з мясцовага ваенкамата. Вясна пачала падносіць вяскоўцам небяспечныя "сюрпрызы", якія засталіся ў зямлі пасля вайны. Прыбыўшыя сапёры пасля стараннага абследавання месца знаходкі і суседняй тэрыторыі знайшлі і абясшкодзілі 38 ручных і процітанкавых гранат, буйнакаліберных снарадаў. Так была выканана 71-я з пачатку года заяўка на размініраванне.

Як і ў гэтым выпадку, сапёрам звычайна прыходзіцца мець справу зусім не з адзіночнымі "сюрпрызамі". Больш за 58 тысяч выбухованебяспечных прадметаў абясшкодзілі яны ў мінулым годзе. Ільвіную долю ўраджаю даў Дубровенскі раён, дзе пачаты маштабныя работы па суцэльнаму размініраванню.

Хлопцы ў пагонах гатовы выканаць баявую задачу. Але хаос у нашай эканоміцы, нястрымнае падаражанне ўсяго — ад бензіну да хлеба — ставяць і перад імі непрывычныя фінансавыя "ўводныя". Калі ў мінулым годзе выдзеленых урадам 125 мільёнаў "зайчыкаў" хапіла для размініравання, то выдаткаваных на гэты год 150 мільёнаў, паводле разлікаў штаба інжынерных войск, хопіць пры цяперашніх цэнах хіба што на абмундзіраванне салдат. А гаруча-змазачныя матэрыялы, харчаванне, аплата небяспечнай працы соцень рэзервістаў? Кошт усяго гэтага толькі ў сакавіку мінулага года, як вядома, у чарговы раз павялічыўся адразу ў некалькі разоў. Паводле самых мінімальных разлікаў, для працягу работ па размініраванню ў рэспубліцы сёння трэба не 150 мільёнаў, а амаль 2 мільярды рублёў. Таму без дзейснага забеспячэння ўсім неабходным адважныя і ўмелыя майстры-сапёры могуць аказацца няўзброенымі.

**БЕЛІНФАРМ.**

*Невядомая вайна*

# Кантрольная паласа

Восень 1930 года. Адна з пагранічных застаў 6-га Араніенбаўмскага пагранічнага атрада. На граніцу накіроўваецца атрад пагранічнікаў. Старшым нарада прызначаны сяржант Васіль Лебедзеў. Малады воін ужо вывучыў участак граніцы, якая ахоўваецца пагранічнікамі 3-й заставы, у складзе якой ён служыць ужо тры месяцы пасля заканчэння школы малодшых камандзіраў у горадзе Кінгісепе. Начальнік заставы Іван Фёдараў у час інструктажу пагранічнага нарада прасіў звярнуць асаблівую ўвагу на ўчастак граніцы паміж двума азёрамі. Гэты ўчастак варожыя лазутчыкі ў апошні час часта выбіралі для пераходу граніцы нашай краіны. Ён знаходзіўся ў глухім месцы, далёка ад заставы. Таму і прыцягваў увагу парушальнікаў.

Сяржант Лебедзеў разам з двума пагранічнікамі нарада, Паўлам Ізотавым і Мікітам Філіповічам, павольна ішлі па пагранічнай сцяжынцы, прыслухоўваючыся да цішыні і ўважліва аглядаючы кантрольную паласу граніцы. Яны ўжо дасягнулі ўчастка граніцы, на які звяртаў увагу начальнік заставы. Сяржант Лебедзеў вырашыў тут, паміж двух азёр, паназіраць за граніцай. На зямлю апусціўся густы белы туман. Ён, як малаком, ахутаў усё навокал. Стаяла перадсвітальная цішыня. Пагранічнікі ўважліва прыслухоўваліся, разлічаючы самыя аддаленыя і слабыя гукі.

На світанку іх увагу прыцягнуў гук, падобны на трэск зламанай сухой галінкі, які даносіўся з таго боку граніцы. Ён насцярожыў воінаў, прымусіў іх сэрцы біцца часцей. Пагранічнікі чакалі. Праз нейкі час яны пачулі блізкія крокі людзей. Лебедзеў шэптам загадаў дазорным падрыхтавацца, а сам устаў на ногі. Ён убачыў скрозь туман дзве галавы парушальнікаў граніцы, якія рухаліся ўздоўж берага возера да іх. Ускінуўшы вінтоўку, крыкнуў:

— Стой! Рукі ўгору!

Дыверсанты сталі на ўвесь рост, убачылі перад сабой савецкіх пагранічнікаў. Адзін з іх адразу ж падняў рукі, а другі — прысеў і выстраліў, але міма. Сяржант Лебедзеў выстраліў у ледзь бачную ў тумане спіну дыверсанта. Той дзіка закрычаў ад болю і знік у тумане. Другі парушальнік спалохана замармытаў:

— Не страляйце. Я здаюся!

— Кіньце зброю,— скамандаваў Лебедзеў, трымаючы на мушцы дыверсанта. І дадаў: "Радавыя Ізотаў і Філіповіч! Абшукайце парушальнікаў!"

Паранены дыверсант працягваў крычаць ад болю, але не страляў. Калі пагранічнікі абшукалі стаяўшага парушальніка і забралі ў яго пісталет, радавы Ізотаў знайшоў параненага дыверсанта (куля прабіла яму спіну). Ён крычаў ад болю, але пісталета з рук не выпускаў. Тады Ізотаў прыкладам аўтамата выбіў у ворага з рук пісталет і падняў на ногі параненага. Гэта быў невялікага росту мажны мужчына з рудой барадой. Ён злосна шыпеў, лаяўся на пагранічнікаў.

Сяржант Лебедзеў загадаў Ізотаву перавязаць рану парушальніку граніцы, сам жа старанна абшукаў затрыманых, праверыў іх кішэні і рэчмяшкі. Дакументы ў абодвух парушальнікаў былі выпісаны на работнікаў араніенбаўмскіх арганізацый. З допыту аднаго з парушальнікаў стала вядома, што старшым у іх быў паранены дыверсант. Ён быў адным з кіраўнікоў рускай эміграцыі ў Фінляндыі, былы падпалкоўнік царскай арміі, сын буйнога памешчыка ў прыгарадзе Пецярбурга.

Хутка да месца затрымання парушальнікаў прыбыла аператыўная група пагранічнікаў на конях. Яна і даставіла парушальнікаў граніцы на заставу. Пасля допыту іх накіравалі ў штаб пагранатрада. Як высветлілася, варожыя лазутчыкі ішлі ў наш бок з заданнем укараніцца ў органы пагранічнай аховы Ленінградскай вобласці, даведвацца пра ўсе мерапрыемствы па ўзмацненню аховы граніцы і перадаваць звесткі за мяжу, у спеццэнтр.

Неўзабаве перад строем асабовага саставу заставы № 3 быў зачытаны загад начальніка пагранвойск Ленінградскай вобласці, якім сяржанту Лебедзеву, пагранічнікам Ізотаву і Філіповічу аб'яўлялася падзяка за добрасумленнае нясенне службы на граніцы. Усе яны ўзнагароджваліся камплектамі абмундзіравання, у якіх былі шынель, гімнасцёрка, шаравары, боты і ручнік. Гэта быў самы каштоўны на той час падарунак для воінаў-пагранічнікаў.

За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў час нясення воінскай службы на граніцы (а ёй ён аддаў 27 каляндарных гадоў) Васіль Андрэевіч Лебедзеў узнагароджаны шаснаццаццю ордэнамі і медалямі краіны.

**Мікалай АКАЛОВІЧ.**

